# НІВА

Год выдання У

№ 23 (223)

5 ЧЭРВЕНЯ 19—

БЕЛАСТОК

Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

ТЭЛЕГРАМА

**Тав УЛАДЗІСЛАВУ ГАМУЛКУ**
**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ ПАРП**
**ВАРШАВА**

ІІІ-ЦІ АГУЛЬНЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА - КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА Ў ПОЛЬШЧЫ ШЛЕ ВАМ, ТАВАРЫШ ВЕСЛАЎ, САРДЭЧНЫЯ ПРЫВІТАННІ. З'ЕЗД ЗАПЭЎНЯЕ КІРАЎНІЦТВА НАШАЙ ПАРТЫІ, ШТО ПРЫКЛАДЗЕ ЎСЕ НАМАГАННІ Ў НАПРАМКУ МАБІЛІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА НАСЕЛЬНІЦТВА ДА РЭАЛІЗАЦЫІ ПАСТАНОЎ ПАРТЫІ Ў СПРАВЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА Ў НАШАЙ КРАІНЕ — ПОЛЬСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ.

Беласток, 29 мая 1960 г.

З III З'езду БГКТ

# ГАЛОЎНЫ НАПРАМАК — ВЁСКА



Справаздачны даклад чытае старшыня ГП БГКТ Уладзімір Станкевіч. За прэзідыяльным сталом (злева): Зыгфрыд Шнэк — намеснік міністра унутраных спраў, Уладзімір Юзвюк — старшыня З'езду, Веслаў Ацепка — намеснік загадчыка адміністрацыйнага аддзела ЦК ПАРП, Пётр Любянецкі — сакратар ВК ПАРП, Васіль Фёдараў — прадстаўнік савецкага пасольства, Станіслаў Юхніцкі — намеснік старшыні прэзідыума ВРН, Георгі Валкавыцкі — галоўны рэдактар «Нівы».

Яшчэ з самай раніцы 29 мая да гмаху прэзідыума ВРН пры вуліцы Міцкевіча ў Беластоку накіроўваліся групкі людзей. Гэта прыехалі беларусы з усіх куткоў Беласточчыны, з Варшавы, Шчэціна, Лодзі, дэлегаты і госці на III З'езд Беларускага грамадска - культурнага таварыства ў Польшчы.

У кулуарах З'езду прысутныя з цікавасцю разглядаюць даволі вялікі асартымент вырабаў нашых — гаспадарчых прадпрыемстваў — «Бэтэскі», якія тут выстаўлены. Некаторыя ахвотна купляюць паасобныя рэчы.

Але ўсе намагаюцца як найхутчэй уладзіць папяровыя фармальнасці, атрымаць прыгожа выкананы пластмасавы блакнот — памятку з III З'езду і хутчэй увайсці ў залу абрадаў III З'езду.

Над дзвярыма пры ўваходзе ў залу віднеецца на чырвоным палотнішчы лозунг: «Сардэчна вітаем дэлегатаў і гасцей на III З'езд БГКТ».

Каля 11 гадзін на трыбуну ўваходзіць старшыня Галоўнага Праўлення БГКТ Уладзімір Станкевіч. Ён у цёплых словах, вітаючы дэлегатаў і гасцей, адкрывае III З'езд.

Старшынёй З'езду дэлегаты аднагалосна выбіраюць Уладзіміра Юзвюка.

Падзякаваўшы за давер, старшыня прапануе прэзідыум З'езду.

Прысутныя бурнымі апладысментамі вітаюць у прэзідыуме З'езду:

Веслава Ацепка — прадстаўніка ЦК ПАРП, Зыгфрыда Шнэка — намесніка Міністра унутраных спраў, Васіля Фёдарава — прадстаўніка Савецкага Пасольства ў Польшчы, Пятра Любянецкага — сакратара КВ ПАРП у Беластоку Станіслава Юхніцкага — намесніка старшыні прэзідыума ВРН у Беластоку, Рыгора Баярскага — старшыню Украінскага грамадска-культурнага таварыства, Антона Чаплінскага — нам. старшыні Літоўскага грамадска-культурнага таварыства, прадстаўнікоў мясцовых улад, дзеячоў і актывістаў Таварыства.

Месца, за якім сядзіць прэзідыум, удэкаравана беларускімі народнымі дыванамі, прыгожа вышытымі ручнікамі. У цэнтры вялікі партрэт Янкі Купалы. Над партрэтам на чырвоным палотнішчы лозунг: «Шырэй пракладаць дарогу сацыялістычным пераўтварэнням».

Прысутныя з увагай выслухалі справаздачны даклад ГП БГКТ, які прачытаў старшыня ГП Уладзімір Станкевіч. (Вытрымкі з даклада змяшчаліся ў папярэднім нумары «Нівы»). Пасля даклада Галоўнага Праўлення і справаздачы Рэвізійнай камісіі завязалася вельмі актыўная, неаднойчы гарачая дыскусія.

Калі б дашуквацца розніцы паміж II-гім і III-цім З'ездам Таварыства, дык яна выразна відаць у тым, што апошні З'езд быў можа менш святочны, менш узнёслы, затое больш рабочы, больш практычны для далейшай дзейнасці Таварыства.

З'езд адобрыў працу Галоўнага Праўлення, якое асноўны напрамак сваёй дзейнасці накіроўвае на вёску.

(Працяг на стар. 2)



Дэлегаты і запрошаныя госці.

## Галоўнае Праўленне БГКТ

1. Азябла Янка
2. Альшэўскі Язэп
3. Артысевіч Міхась
4. Баравік Міхась
5. Баршчэўскі Васіль
6. Бялецкая Ліда
7. Валкавыцкі Георгі
8. Вішэнка Янка
9. Гайдук Мікола
10. Гарустовіч Яўген
11. Грыцук Кастусь
12. Дземяновіч Макар
13. Дзун Васіль
14. Карпюк Аляксей
15 Кастыцэвіч Яраслаў
16. Ляшчынскі Кастусь
17. Майсеня Кастусь
18. Маркоўскі Язэп
19. Мацеюк Янка
20. Мушынская Ніна
21. Пірута Мікалай
22. Рафаловіч Аляксандр
23. Самогік Мікалай
24. Станкевіч Уладзімір
25. Туронак Юры
26. Харкевіч Аляксандр
27. Чыквін Арцём
28. Швед Віктар.
29 Шыманюк Сымон
30. Юзвюк Уладзімір
31 Яновіч Сакрат.

## Прэзідыум ГП БГКТ

1. Станкевіч Уладзімір — старшыня.
2. Валкавыцкі Георгі — намеснік старшыні
3. Юзвюк Уладзімір — сакратар
4. Бялецкая Ліда — член Прэзідыума
5. Гарустовіч Яўген — член Прэзідыума
6. Грыцук Кастусь — член Прэзідыума
7. Карпюк Аляксей — член Прэзідыума
8. Ляшчынскі Кастусь — член Прэзідыума
9. Шыманюк Сымон — член Прэзідыума

## Рэвізійная Камісія

1. Галёнка Хведар — старшыня
2. Грэсь Янка — намеснік старшыні
3. Кізевіч Піліп — член Камісіі
4. Кунах Аляксандр — член Камісіі
5. Літвінчык Васіль — член Камісіі

 

# Песня дружыць памагае

Нейкі час назад пісалі мы аб падзеле, які спрадвеку існаваў паміж жыхарамі вёскі Катлы ў Бельскім павеце. У той час яшчэ не было ў вёсцы амаль ніводнай забавы, на якой моладзь з супрацьлеглых канцоў вёскі не глядзела б адзін на аднаго па-воўчаму, у нейкай варожай заядласці, што было прычынай частых боек.

І хоць у сучасны момант нельга яшчэ гаварыць аб канчатковай ліквідацыі ўсялякіх спрэчак, але нядаўна, будучы ў вёсцы, заўважыў я вельмі карысную з'яву, якая дазваляе меркаваць, што і ў Катлах людзі патрапяць жыць у згодзе, палюдску.

Пачалося гэта на пачатку бягучага года, калі ў вёсцы быў арганізаваны гурток БГКТ.

На адным са сходаў моладзь вырашыла арганізаваць гурток мастацкай самадзейнасці.

— У другіх вёсках моладзь, — гаварылі на сходзе, — як выступіць, дык глядзець хочацца. А мы то што, няўмекі?

— Так, але ў другіх вёсках моладзь жыве дружна. Адзін за другога ў агонь скочыў бы. А ў нас, каб мог, дык адзін другога ў ложцы вады ўтапіў бы, — пярэчылі другія.

— Гэта праўда. Але ці ж мы не ў сілах пакончыць з гэтым спрадвечным падзелам вёскі і варожасцю. Ці ж у нас на «Пясках» жывуць іншыя людзі, як у «Сяле»? Навошта нам заўсёды сварыцца? Ці ж мы горшыя ад людзей у другіх вёсках?

У гурток мастацкай самадзейнасці ўступіла 10 асоб, найбольш таленавітых у вёсцы дзяўчат і хлопцаў.

Маладым актывістам на дапамогу прыйшлі настаўнікі мясцовай школы.

Душой мастацкага гуртка сталі загадчыца школы Оля Навіцкая і



**Загадчыца мясцовай школы Оля Навіцкая.**

настаўніца Зоя Макацэвіч.

У школе амаль штовечар адбываліся рэпетыцыі. І кіраўнічка, хаця яна жыве за некалькі кіламетраў ад Катлоў і мае сямейныя абавязкі, заставалася з моладдзю ў школе да позніх гадзін.

— Для такой справы не шкада часу, — гаварыла яна. У мастацкі гурток уступіла моладзь толькі з «Сяла», але паглядзець на рэпетыцыі часта прыходзілі і з «Пяскоў» і менавіта гэта неяк збліжала адных з другімі. Варожасць памалу заціралася.

17 красавіка катлоўскія самадзейнікі выступілі на школьнай сцэне з пастаноўкай беларускай п'есы «Прымакі». На пастаноўку прыйшло звыш 70 жыхароў з абодвух канцоў вёскі. Мастацкай ігрой Надзі Мінкевіч, якая выступала ў ролі «Кацярыны», захапляліся ўсе, як з «Сяла» так і з «Пяскоў». Вельмі добра таксама іграў ролю Максіма Кутаса Уладзімір Пятроўскі. Ён з'яўляецца вучнем 10-га класа Беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску. Аднак знайшоў час дапамагчы сваім сябрам - аднавяскоўцам у падрыхтоўцы пастаноўкі і выступіў з імі на сцэне. Пастаноўка прайшла з вялікім поспехам і заахвоціла маладых артыстаў да далейшай працы.

Пасля пастаноўкі выступіў самадзейны хор. Людзі са слязьмі ў вачах і з вялікім хваляваннем успрынялі беларускую песню «Люблю наш край», якую сапраўды па-мастацку выканаў хор.

Вельмі таксама ўсім падабалася «Грушыца» ў выкананні трыё ў складзе Олі Сабалеўскай, Надзі Мінкевіч і Любы Паўлючук.

Пасля мастацкіх выступленняў на просьбу моладзі настаўнікі дазволілі наладзіць забаву ў школе.

— Праўду кажучы, — успамінае загадчыца школы Оля Навіцкая, — вельмі неахвотна згадзілася я на гэтую забаву. У нас жа заўсёды біліся. Думаю, паб'юцца і цяпер, а я буду адказваць. Але ўсё ж-такі даверыла моладзі. І не памылілася. Гулялі так ветліва, як ніколі. Бызцам зусім не тая моладзь, аж глядзець было прыемна. Калі так будзе далей, дык часцей дазволю гуляць у школе.

Ну што ж, відавочна, песня дружыць памагае. І на маю думку, разумее гэта і моладзь з Катлоў.

А калі так, дык у гуртку мастацкай самадзейнасці не будзе недахопу моладзі з абодвух канцоў вёскі, а колішняя варожасць пойдзе ў нябыт, як непатрэбны нікому перажытак.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**
**Фота аўтара**

# Жывёлагадоўля — дадатковы даход у гаспадарцы

Зямля ў Кабылянцы, Беластоцкі павет, не належыць да ліку ўраджайнай. Невысокія зборы збожжавых культур не заспакойваюць усіх патрэб сялян. Зразумелымі тады застаюцца імкненні сялян знайсці новыя сродкі даходу. Гэтым сродкам з'яўляецца жывёлагадоўля. Ужо зараз сяляне з Кабылянкі давозяць у малачарню ў Міхалове значныя колькасці малака і ўвесь час намагаюцца давозіць яго яшчэ больш. Гэта ў сваю чаргу цягне за сабой неабходнасць павышэння колькасці галоў буйнай рагатай жывёлы.

Аднак магчымасці пашырэння жывёлагадоўлі тут у значнай меры абмежаваныя. Развіваючы жывёлагадоўлю, сяляне абапіраюцца перш за ўсё на той арэал сенажацяў, якія маюць у сваім распараджэнні, але гэты арэал з'яўляецца недастатковым і не дазваляе павялічыць пагалоўе жывёлы. Павелічэнне жывёлагадоўлі абумоўлена тут здабыццём новых кармавых рэсурсаў. І такія рэсурсы ў Кабылянцы ёсць. З'яўляюцца імі шматлікія тарфянікі. Частка знаходзячыхся тут тарфянікаў эксплуатуецца, пераважна як паліва, а частка застаецца яшчэ пакуль што нявыкарыстанай. Загаспадараванне іх стварыла б дадатковыя кармавыя рэзервы, якія ў сваю чаргу дазволілі б павялічыць пагалоўе жывёлы. Гэта быў бы дадатковы даход для сялян і дадатковая колькасць малочных прадуктаў для горада. Карысць агульная.

З ініцыятывай загаспадаравання часткі тарфянікаў, якія належаць да Гміннай спулдзельні ў Міхалове і пакуль што не выкарыстоўваюцца, выступілі ў Кабылянцы даўно.

На жаль, фармальныя справы, як гэта ўвайшло ў нас ужо ў звычай, цягнуліся на працягу двух гадоў. Урэшце справа закончылася карысна для сялян. У красавіку сяляне з Кабылянкі падпісалі з Прэзідыумам павятовай рады нарадовай дагавор на загаспадараванне 30 гектараў тарфянікаў. Да загаспадаравання іх меліся сяляне прыступіць яшчэ ў гэтым годзе.

Аднак у сувязі з тым, што дагавор быў падпісаны ў красавіку г. г., гэты арэал не быў уведзены ў план водна - меліярацыйнага аддзела ППРН і вышэй названы аддзел не мае на гэту плошчу патрэбнага насення. Загаспадараваць тарфянікі можа дапамагчы водна - меліярацыйны аддзел толькі ў 1961. Нягледзячы на гэтыя цяжкасці, сяляне дакладваюць усе намаганні, каб яшчэ ў гэтым годзе сабраць сена хаця б з часткі арандаваных тарфянікаў.

Загаспадараванне тарфянікаў дазволіць кожнаму селяніну з Кабылянкі павялічыць пагалоўе жывёлы на 1—2 каровы. Гэта прынясе карысць як дзяржаве, так і сялянам. (пч)

# КАЛЁСАХ

дзелі перад пятніцамі. А ці няма ў нас так, што ў нядзелю замест грэць падлогу сваім ілбом, робім нейкую карысную работу. Не зважаем на святасць нядзелі—працуем з лёгкай душой і чыстым сумленнем. А ў Пятніцу?.. Ого, не ўсё можна. Бо хто з сялян пачынаў калі работу ў Пятніцу? Не знойдзеце ў нас такіх. І заворваюць, і закошваюць, і зажынаюць і засяваюць у чацвер або ў суботу. А спрабуй, запытайся любога селяніна, чаму ў пятніцу не можна пачынаць работы. Пачуеш адзін адказ: «З дзядоў прадзедаў такі звычай, не нам яго ламаць». Вось і ўсё. А колькі я не пытаў, чаму нашы продкі гэтак шанавалі пятніцу, заўсёды чуў: «А бо я знаю». А хто знае? Дзе знайсці гэтага разумаку? Я ўжо пачаў траціць надзею, калі выпадковае здарэнне выясніла загадку. Трапіў я на кніжку, якая мне выясніла тое, аб чым я на працягу многіх год дапытваўся ў людзей. Раскрыла загадку Пятніцы. Даведаўся я, што беларусы, будучы хрысціянамі амаль дзесяць вякоў, захавалі сваю дахрысціянскую веру. Што гэта такое? А вось што. Хрысціянскую веру славянскія князі прынялі з Візантыі. Яна ім нясла палітычныя выгады. Прастаму народу незразумелым быў грэчаскі трохасабовы бог і чужымі былі хрысціянскія святы. Народ дабравольна не прымаў новай веры. Вядома, князі не бавіліся з простым народам, яны з сваімі дружынамі хапалі людзей, як зайцаў, сажалі ў ваду і хрысцілі. З тых часоў, відаць, і жыве прыказка: «Ты яго хрысці, а ён крычыць: пусці!». Вядома, на палях лягчэй было людзей лавіць і хрысціць, абы вада была. Але цяжка было злавіць продкаў нашых, якія жылі на дрыгвах, сярод непраходных пушч і балот. Гэтыя плямёны па-старому верылі ў сваіх няхрышчаных багоў, святкавалі свае святы. І так з году ў год, з веку ў век перадавалі свае звычаі. «Вось гэта дык народ», — думаў я, едучы на калёсах.

Пяценка — Пятніца была багіняй добрага. Асабліва яе любілі крывічы. Яна была багіняй жыцця і смерці, таму яе і баяліся. Яна была таксама апякункай памершых, таму ўсе стараліся ёй дагадзіць, каб багіня не зганяла свайго гневу на родных, прабываючых на тым свеце. Апекавалася яна і беднымі, таму яны найбольш паважалі Пяценку.

Яна часта паказвалася людзям, гаварыла з імі, вучыла іх. Але паказвалася яна толькі адзіночным людзям, ніколі — групе. І ніхто, гутарыўшы з ёй, не ведаў, што гэта Пяценка. Аб гэтым здагадваліся людзі па яе адыходзе. У месцах, дзе яна з'яўлялася, будавалі ў яе гонар капліцы. А заўсёды гэтыя месцы былі прыгожымі, пераважна каля рэк і крыніц. Паблізу закладалі могілкі, каб памершыя былі блізка да сваёй апякункі. Сюды, да Пяценкі, ішлі бедныя прасіць ратунку і дапамогі. Пятніца была днём Пяценкі. Гэта дзень шчырага посту, дзень торгаў і кірмашоў (гандаль таксама належыў да Пяценкі). Працаваць у пятніцу было нельга. Аднак гэта быў дзень дапамогі бедным, удовам і слабым.

Пяценка не патрабавала сабе асабіста ніякіх ахвяраў. Яна жадала, каб гэтыя ахвяры непасрэдна атрымоўвалі бедныя. Такое значэнне мела Пяценка.

І чаму мне ўсяго гэтага не выясніць сялянцы з Паўлаў. Яна павінна гэта знаць. Яна павінна знаць і тое, што ўстаноўшчыкі хрысціянства шмат уступілі на карысць Пяценкі. Яны падмянілі яе святою велікамучаніцай Параскай. Нібы Параска — гэта тая самая Пяценка.

Капліц не чапалі, а на могілках будавалі царквы ў гонар святой Параскі. А ёсць гэтых Пяценкаўскіх цэркваў нямала.

Як кожная Пяценка, так і нашая, мае сваю легенду, нават дзве. Першая адносіцца да даўнейшых часоў. Паводле яе, жыхары гэтых мясцін часта бачылі каля крыніц на ўскраю хваёвага бору прыгожую маладую жанчыну, якая нікому не дазваляла наблізіцца, заўсёды знікала ў бары, на ўзгорку. Людзі тлумачылі гэта тым, што Пяценка жадае мець каля крыніцы капліцу, а на ўзгорку — могілкі. І з тых часоў каля крыніц існуе капліца, а на ўзгорку могілкі.

Другая легенда адносіцца да пазнейшага часу. Паводле яе, аднойчы раніцай, у час усходу сонца, пастушкі ўбачылі, што каля крыніцы на вярбе штосьці моцна зіхаціць. Калі збегліся людзі, то ўбачылі на вярбе завешаны вобраз святой Параскі — Пятніцы. Гэта людзям гаварыла аб тым, што святая Параска — Пятніца аблюбавала гэтую мясціну. У гонар яе людзі пабудавалі царкву, але не каля крыніцы, пад вярбою, на месцы капліцы, а на ўзгорку сярод могілак. Легенды, вядома, легендамі. Многа ад таго часу змянілася на свеце. Толькі нязменна шуміць высокі, цёмназялёны бор у Пяценцы, дзе на ўзгорку, пад гэты шум, спачываюць нашыя продкі, б'е ў крыніцы чыстая халодная вада, якая праганяе смагу жывым, і гучыць навокал наша простая, прыгожая, беларуская мова.

З поўначы Пяценкі сінее Блудаўская пушча, якая злучаецца з Супраскімі лясамі. На захад ад Пяценкі вёскі абсаджаныя вязамі, бярозамі і таполямі, прыкрыты садкамі і садочкамі, акружаны агародчыкамі, поўнымі кветак. Гэта Цільвіцкія Подваркі, вялікія і малыя. Палі гэтых вёсак абсеяны хутарамі. На паўднёвы захад відаць вежы касцёла і купал са званіцай царквы з Заблудава. На ўсход, апрача блізкай вёскі Цільвіч відаць вёскі Патока і Тапаляны. Краявід паўднёвага ўсходу лясісты і роўны. Чыстыя пералескі і бары, як бы зліваюцца ў суцэльны масіў. Але гэта ўражанне памылковае, бо на мяжуючых з пералескамі большых ці меншых палянках густа ўсеяны хутары і невялікія вёскі. Іх толькі не відаць з узгорка Пяценкі. Паўднёвы склон Пяценкі найпрыгажэйшы за ўсе. Тут, як на далоні, ляжыць шырокая, лёгкая ўсхвалёваная даліна рэчкі Малынкі і ракі Нарвы. На сінеючым гарызонце — Ляцкая пушча.

Палі каля Пяценкі густа завалены каменнямі — рэшткі былога ледніка. Найвелізарнейшыя глыбы каменняў паміж Пяценкай і Блудаўскай пушчай. Многа ёсць крыніц у карчах алешніка, лугоў, акружаных сітнікам, ручайкоў, зарослых густа лазняком, вербалозам, чаромхай і іншымі раслінамі, на якіх тоўстымі звоямі ўецца зялёны хмель, а ўперамежку, між дрэвамі, заглядаючы ў ваду, растуць густыя кусты дзікай смародзіны, парэчак, цвікольца і каліны.

На маю думку, нідзе так не цвітуць паплавы, не хвалююцца нівы, нідзе так ласкава, як у нас, не шалешчуць пералескі, нідзе так удумліва не шумяць бары.

Ну і што ж дзіўнага, што мы так моцна любім сваю бацькаўшчыну. А любім усё, што пад намі, над намі і вакол нас. Любім радзіму, як можа мала хто. А гэта я бачу на сваіх блізкіх і далёкіх сябрах. А гэта я адчуваю сам па сабе.

Так думаў я, едучы на калёсах. Але думкі мае кончыліся, бо конь заехаў на панадворак і калёсы сталі.

**МІХАСЬ КРАСОЎСКІ**
Малынка



 

